# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


## ПАВЫШЭННЕ ЯКІХ КОШТАЎ



БАЛЮЧАЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ?

СТАР. 4–5

## ШТО ХАВАЕЦЦА

ЗА КАР'ЕРАЙ АПАЗІЦЫЯНЕРАЎ?



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 10.01.13-16.01.13 г.

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА ТАКІ НЕРАШУЧЫ

Кіраўнік Беларусі хоча скараціць апарат такім чынам, каб не паслабіць кантроль за ніводнай галіной.

### АПТЫМІЗАВАЦЬ "УСІХ-УСІХ-УСІХ"

У першы працоўны дзень 2013-га года **Аляксандр Лукашэнка** сустрэўся з кіраўніком сваёй адміністрацыі **Андрэем Кабяковым** і ўласным памочнікам **Наталляй Пяткевіч**. Менавіта яны ўзначальваюць камісію, створаную для "выпрацоўкі прапаноў па аптымізацыі структуры, колькасці і функцый дзяржаўных органаў".

Сам Лукашэнка напрыканцы мінулага году шмат разоў казаў пра неабходнасць скарачэння дзяржапарату. Дайшло да таго, што кіраўнік дзяржавы не выключыў, што колькасць супрацоўнікаў КДБ паменшае ў 6 разоў – з 12 тысяч да 2. А яшчэ ён вёў гаворку пра "аптымізацыю" Міністэрства ўнутраных справаў, створанага год таму Следчага камітэта. Карацей, "усіх-усіх-усіх"…

Гэтае жаданне выкліканае банальнай прычынай – бракуе грошай на утрыманне такой пломы. Таму давялося распачаць гутарку пра скарачэнне кадраў.

Аднак далей гутаркі справа пакуль не ідзе. Кабякоў і Пяткевіч ад імя камісіі прапанавалі пачаць з "аптымізацыі" міністэрстваў гандлю і жыллёва-камунальнай гаспадаркі.




*Выбар ёсць заўсёды, але…*

Але ж у адказ пачулі ад Лукашэнкі:

-- Мы договаривались, что это будет как минимум 25%. Такое время настало. Если мы говорим о дебюрократизации, то, естественно, надо, чтобы чиновников было меньше. Если чиновников много, они все равно найдут себе возможность заниматься даже теми вопросами, которые нам не нужны и которые как раз входят в перечень того бюрократизма, против которого мы с вами боремся. С другой стороны, это не должно быть чисто механически. Потому что мы можем нанести вред государственному управлению.

> "Існуе правіла, згодна з якім любое скарачэнне дзяржапарату сканчаецца павялічэннем ягонай колькасці. Выглядае, што гэтым разам атрымаецца менавіта так"

### НАЙВЯЛІКШАЕ БЕРВЯНО НА ШЛЯХУ МАДЭРНІЗАЦЫІ

Высвятлілася, што скарачаць міністэрства гандлю і жыллёва-камунальнай гаспадаркі нельга, бо яны займаюцца пытаннямі, якія "больше всего волнуют людей".

Паглядзеўшы на спіс міністэрстваў, разумееш, што "аптымізаваць" там практычна няма каго. Хіба ахова здароўя хвалюе беларусаў менш, чым ЖКГ? Ці адукацыя менш важная за гандаль?

Другасных накірункаў, якімі можна было б ахвяраваць, наогул не існуе. У гэтым можна пераканацца на прыкладзе дрэваапрацоўчай галіны. Пра яе да нядаўняга часу абсалютная большасць беларусаў не ведала нічога пэўнага. Але вось жа высвятлілася, што гэта ці не найвялікшае бервяно на шляху мадэрнізацыі нашай краіны…

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## П'ЯНЫ ЗА РУЛЁМ? ГАНІ АЎТО!

Пра гэта паведаміў сёння генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк.

Складаная працэдура падрыхтоўкі законапраекта завершана, праект пададзены на разгляд кіраўніка дзяржавы. Пасля гэтага ён будзе ўнесены на разгляд дэпутатаў нацыянальнага схода, растлумачыў генпракурор.

«Пракуратура настойвае на тым, каб, як толькі ў чалавека за рулём пацвярджаецца факт алкагольнага ап'янення, транспартны сродак канфіскоўваць, а таксама выступае за ўзмацненне жорсткасці пры адказнасці за гібель людзей.

Аднак ўвасабленне ў практыку гэтых прапаноў будуць залежаць ад заканадаўцы», — падкрэсліў генпракурор.

Як паведамлялася раней, Генеральная пракуратура Беларусі сумесна з Міністэрствам юстыцыі падрыхтавала законапраект, у якім прапануецца канфіскоўваць аўтамабілі ў нецвярозых кіроўцаў толькі ў рамках крымінальнай адказнасці.



# ШТО МОЖА ПРЫМУСІЦЬ ВАС ЭМІГРЫРАВАЦЬ?

Апошнім часам усё больш людзей, асабліва высокаадукаваных, тых, хто ведае мовы і валодае запатрабаванымі спецыяльнасцямі, з’язджае за мяжу. Наколькі незваротны гэты працэс, разбіралася “Тут і цяпер”.



*Эміграцыя для многіх стала сур’ёзнай тэмай*

**ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ, БАРД, АЎТАР РАДКОЎ “А Ў КАНЦЫ ГЭТАЙ СЦЕЖКІ ПАНУРА СТАІЦЬ НЕПАЗБЕЖНАЯ ЦЕНЬ ЭМІГРАЦЫІ”:**

### “ЛІРЫЧНЫ ГЕРОЙ І АЎТАР – НЕ АДНО І ТОЕ Ж”.

— Я такі варыянт нават не разглядаю. А чаго гэта я павінен эмігрыраваць? Гэта мая краіна: тут я нарадзіўся, тут жылі мае бацькі, дзяды, прадзеды. Маё Поразава стаіць з пятнаццатага стагоддзя. Куды ж тут ехаць?

Гэта несур’ёзная пастаноўка пытання. Такое мог заявіць мой лірычны герой, але ж лірычны герой і аўтар — дзве розныя рэчы. Я нясхільны асуджаць эмігрантаў. Мне здаецца, паколькі Бог стварыў свет і сказаў Адаму і Еве: “Пладзіцеся і множцеся”, то людзі вольны пладзіцца і множыцца, дзе толькі захочуць. Але ж асноўная маса людзей шукае шчасця і знаходзіць яго менавіта на сваёй зямлі. Таму, напрыклад, шведы не эмігрыруюць так масава. Высновы рабіце самі.

**ВАДЗІМ, ПРАГРАМІСТ (МІНСК):**

### “КАЛІ ПРАЦАВАЦЬ ТАМ, ЖЫЦЬ МОЖНА І ТУТ”

— Калі твая праца ніяк не звязана, дзякуй Богу, з беларускай дзяржавай, то жыць можна і тут. Нават можна сказаць, што жыць тут не толькі можна, але і трэба. Бо людзі ў нас адкрытыя, дзеўкі прыгожыя. Няма такой агрэсіі, як у расійскіх гарадах, і адчужанасці паміж людзьмі, як у Заходняй Еўропе. Але галоўнае — ніяк не залежаць ад дзяржавы і зарплату атрымліваць нармальнымі грашыма.

**ГЕНАДЗЬ ШЭПЕЛЕЎ, МАШЫНІСТ (ОРША):**

### “ДАЧКА З РАСІІ РВЕЦЦА ДАДОМУ”

— Ні я, ні мае калегі-чыгуначнікі пра эканамічную эміграцыю нават не думаюць, бо заробкі на чыгунцы сёння нармальныя. У матэрыяльным плане ў нас праблем няма. Дачка мая вучыцца ў Пецярбургу на архітэктара і працуе яшчэ, але хоча вярнуцца ў Беларусь, бо ёй не падабаецца тамтэйшы менталітэт, адносіны паміж людзьмі, стаўленне да работнікаў з боку наймальнікаў. Яна там стала такой беларускай патрыёткай. І хоць заробкі ў Расіі непараўнальныя з нашымі, дачка не хоча там заставацца. Вядома, хоча ў іншую, больш дэмакратычную Беларусь.

**ЮРЫ ХАШЧАВАЦКІ, КІНАРЭЖЫСЁР:**

### “ХАЙ ПАКІДАЕ РАДЗІМУ “НЕШТА”

— Я ніколі не разглядаў такі варыянт, але, відавочна, тэарэтычна нейкія матывы могуць існаваць. Справа ў тым, што думка пра эміграцыю заўсёды ўзнікае тады, калі ты ўзгадваеш, што ў краіне існуе нешта, што не дазваляе табе тут жыць нармальна. Дык вось я ведаю, што гэта за “нешта”. Лічу, што менавіта яно павінна эмігрыраваць, а я павінен застацца, бо мне тут добра. Тут дом, блізкія людзі, работа, любае надвор’е, нягледзячы на тое, што мы пастаянна на яго лаемся. Усё ў комплексу. І толькі адно выбіваецца з агульнага шэрагу — гэта ўлада. Усё ж астатняе вельмі добра. Мне тут заўсёды дапамагалі, давалі магчымасць тварыць. Чаму я павінен з’язджаць?!

**ДА ВЕДАМА**

**Згодна з апошнім (чэрвеньскім) апытаннем Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, каля 46% беларусаў перакананы ў тым, што не хочуць з’язджаць з краіны нават часова. Больш за палову апытаных былі б не супраць пакінуць краіну. 8% гатовы з’ехаць куды хочаш, абы не жыць у Беларусі. Куды і навошта едуць беларусы?..**

**ВІТАЛЬ, ТАКСІСТ (ВІЦЕБСК):**

### “ХОЦЬ НА КАЛЫМУ!”

— У мяне таварыш працуе на Калыме вахтавым метадам, немалыя грошы зарабляе. Мяне кліча які год. Калі ў роднай Беларусі будзе такая ж стабільнасць, як у апошнія гады, значыць, адназначна атрымаем рост цэн і падзенне заробкаў. Тады прыйдзецца, напэўна, выпраўляцца хоць на Калыму…

**АДАМ ГЛОБУС, ЛІТАРАТАР:**

### “КАЛІ ЦЯБЕ ЗАПРАСІЛІ ЯК СПЕЦЫЯЛІСТА, ДЫК ЧАМУ НЕ?”

— У часы Савецкага Саюза я хацеў зваліць у Эстонію. Гэта вельмі далёка, значна далей, чым усё астатняе. Я хацеў ва ўніверсітэцкі горад Тарту. Калі б мне прапанавалі высокааплатную працу за мяжой, то я, канечне, з’ехаў бы. Дзеля працы — так. Толькі дзеля яе. Эканамічную эміграцыю я прызнаю і вельмі паважаю. Не тады, калі ты прыходзіш і кажаш: “Вазьміце мяне на любую работу”. Не, гэта мне не падабаецца. А тады, калі цябе запрасілі як спецыяліста. Чаму б не? Вось уцекачоў розных (“мы вось з’ехалі туды і таму мы лепшыя”), якія і там непатрэбны, і тут, я асуджаю. Яны там ніхто і вучаць нас, як нам тут жыць. Гэта раздражняе. Прыедзь і дапамажы матэрыяльна, калі ты такі разумны.

**ТАЦЦЯНА КЛІМОВІЧ, НАСТАЎНІЦА:**

### “ГЭТА НЕ ПАВІНЕН БЫЦЬ ШЛЯХ З ПРАФЕСАРА Ў ГРУЗЧЫКІ”

— Калі меркаваць па прыкладах маіх сяброваk, то я не ведаю ніводнага выпадку шчаслівай эміграцыі. Праблемы ёсць ва ўсіх. У любой краіне ёсць свае “падводныя камяні”, да якіх чалавек павінен быць падрыхтаваны. На маю думку, кожны павінен вырашаць свае ўнутраныя праблемы, а не ўцякаць ад іх: ад сябе ж не ўцячэш! Эміграцыя добрая ў тым выпадку, калі чалавек развівае сябе прафесійна, ці, напрыклад, выходзіць замуж (жэніцца) па каханні. У любым выпадку, гэта не павінен быць шлях з прафесара ў грузчыкі. А калі арыентавацца толькі на паляпшэнне матэрыяльных умоў жыцця, то чалавек заўсёды будзе ў пройгрышы.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА ТАКІ НЕРАШУЧЫ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

## УСЕАБДЫМНЫ ЎЛІК І КАНТРОЛЬ

Нават міністэрства з легкадумнай назвай “спорта і турызму” мае ў Беларусі стратэгічны характар. Пра тое сведчыць хаця б параўнальна нядаўні маштаб істэрыі, якая распачалася па выніках Алімпіяды ў Лондане.

Да таго ж кожная установа ажыццяўляе кантроль за нейкай галіной. А ўсеабдымны кантроль – гэта грунт існуючага рэжыму, гэта рэч, ад якой адмаўляцца нельга. Менавіта таму Лукашэнка дэманструе дзіўную для яго нерашучасць:

– Что касается сокращения отдельных органов, министерств, ведомств, честно говоря, я не готов по данному направлению принимать решение. Надо еще раз посоветоваться с правительством и другими.

Існуе правіла, згодна з якім любое скарачэнне дзяржапарату сканчаецца павялічэннем ягонай колькасці. Выглядае, што гэтым разам атрымаецца менавіта так.

Насамрэч, аптымізацыю дзяржаўнага апарата варта было б пачаць са скарачэння аднаго чалавека, які надта ўжо затрымаўся на сваёй пасадзе. Бо ў іншым выпадку ніякія істотныя перамены ў краіне наогул немагчымыя.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ДЗЕ НАРАДЗІЦЦА Ў 2013-М?

## Калі б можна было выбраць месца нараджэння, якую краіну вы б выбралі? Калі пакінуць убаку рамантычна-патрыятычнае, і зрабіць практычны выбар?

Вось напрыклад, Уорэн Бафет, магчыма самы паспяховы інвестар у свеце, сказаў аднойчы, што ўсё тое добрае, што з ім здарылася, залежыць ад месца нараджэння. Маўляў, яму давялося нарадзіцца ў правільнай краіне (Злучаныя Штаты) і ў правільны час (1930 год). А якая краіна лепшая для нараджэння дзіцяці ў 2013 годзе?

На гэтае пытанне шукала больш-менш сур’ёзны адказ Economist Intelligence Unit (EIU), дачэрняя кампанія The Economist. За асноўны крытэрый паспяховасці ўзята была здольнасць забяспечыць найлепшыя магчымасці для здаровага, бяспечнага і заможнага жыцця ў бліжэйшыя гады.

Індэкс якасці жыцця пабудаваны на суб’ектыўных выніках даследванняў таго, наколькі людзі адчуваюць сябе шчаслівымі ў адпаведнай краіне, і на аб’екыўных паказчыках узроўню жыцця.

Заможнасць – асноўны крытэрый ацэнкі, але ўліічваюцца і іншыя, такія як узровень злачыннасці, давер дзяржаўным установам, геаграфія, дэмаграфія, сацыяльныя і культурныя характарыстыкі – усяго 11 паказчыкаў.

Эканамічны прагноз EUI разлічаны да 2030 года, да тых часоў, калі дарослымі і самастойнымі стануць дзеці, народжаныя ў 2013.

Ну што, выбралі сабе краіну? Правярам, ці слушны ваш выбар.

Найлепшая краіна для нараджэння – Швейцарыя. Другое і трэцяе месца – Аўстралія і Нарвегія. Няблага было б нарадзіцца ў Швецыі ці Даніі. У дзясятку самых рэйтынгавых краін увайшла толькі адна краіна з Еўразоны – Нідэрланды. Увогуле, дамінуюць малыя краіны. А вось краіны буйнейшых эканомік свету – Германія (16 месца), Англія (16), Францыя (26) выглядаюць не вельмі пераканаўча.



*Кветкі жыцця хочуць адпаведнага стаўлення*

А што ў суседзяў? Сярод краінаў Балтыі Літва на апошнім месцы (57), Латвія – на 48-м. Калі ўжо нарадзіцца ў Балтыйскай краіне, то лепей у Эстоніі – яна на 44-м месцы. Расія знаходзіцца на 72 месцы з 80, ніжэй за яе – Украіна (78). Яшчэ меней пашанцуе дзецям, якія народзяцца ў Кеніі (79) ці Нігерыі (80).

А што ж Беларусь, запытаецеся вы? Беларусь у спіс 80 краін не трапіла.

Зрэшты, чужыя разлікі нам не патрэбныя, мы самі добра можам прадказаць, што чакае нашых дзетак, народжаных у 2013, у 2030-м – стабільнае светлае будучае. Шаснаццаць гадоў – гэта не тэрмін.

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**

| Rank | Country | Score* | Rank | Country | Score* | Rank | Country | Score* | Rank | Country | Score* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Switzerland | 8.22 | 21 | Italy | 7.21 | =40 | Cuba | 6.39 | 61 | Bulgaria | 5.73 |
| 2 | Australia | 8.12 | 22 | Kuwait | 7.18 | 42 | Colombia | 6.27 | 62 | El Salvador | 5.72 |
| 3 | Norway | 8.09 | =23 | Chile | 7.10 | 43 | Peru | 6.24 | =63 | Philippines | 5.71 |
| 4 | Sweden | 8.02 | =23 | Cyprus | 7.10 | =44 | Estonia | 6.07 | =63 | Sri Lanka | 5.71 |
| 5 | Denmark | 8.01 | 25 | Japan | 7.08 | =44 | Venezuela | 6.07 | 65 | Ecuador | 5.70 |
| 6 | Singapore | 8.00 | 26 | France | 7.04 | =46 | Croatia | 6.06 | =66 | India | 5.67 |
| 7 | New Zealand | 7.95 | 27 | Britain | 7.01 | =46 | Hungary | 6.06 | =66 | Morocco | 5.67 |
| 8 | Netherlands | 7.94 | =28 | Czech Rep. | 6.96 | 48 | Latvia | 6.01 | 68 | Vietnam | 5.64 |
| 9 | Canada | 7.81 | =28 | Spain | 6.96 | 49 | China | 5.99 | 69 | Jordan | 5.63 |
| 10 | Hong Kong | 7.80 | =30 | Costa Rica | 6.92 | 50 | Thailand | 5.96 | 70 | Azerbaijan | 5.60 |
| 11 | Finland | 7.76 | =30 | Portugal | 6.92 | 51 | Turkey | 5.95 | 71 | Indonesia | 5.54 |
| 12 | Ireland | 7.74 | 32 | Slovenia | 6.77 | 52 | Dominican Rep. | 5.93 | 72 | Russia | 5.31 |
| 13 | Austria | 7.73 | 33 | Poland | 6.66 | 53 | South Africa | 5.89 | 73 | Syria | 5.29 |
| 14 | Taiwan | 7.67 | 34 | Greece | 6.65 | =54 | Algeria | 5.86 | 74 | Kazakhstan | 5.20 |
| 15 | Belgium | 7.51 | 35 | Slovakia | 6.64 | =54 | Serbia | 5.86 | 75 | Pakistan | 5.17 |
| =16 | Germany | 7.38 | 36 | Malaysia | 6.62 | 56 | Romania | 5.85 | 76 | Angola | 5.09 |
| =16 | United States | 7.38 | 37 | Brazil | 6.52 | 57 | Lithuania | 5.82 | 77 | Bangladesh | 5.07 |
| 18 | U.A.E. | 7.33 | 38 | Saudi Arabia | 6.49 | 58 | Iran | 5.78 | 78 | Ukraine | 4.98 |
| 19 | South Korea | 7.25 | 39 | Mexico | 6.41 | 59 | Tunisia | 5.77 | 79 | Kenya | 4.91 |
| 20 | Israel | 7.23 | =40 | Argentina | 6.39 | 60 | Egypt | 5.76 | 80 | Nigeria | 4.74 |

Source: Economist Intelligence Unit

*Score out of a maximum of 10

# ПАВЫШЭННЕ ЯКІХ КОШТАЎ НАЙБОЛЬШ БАЛЮЧАЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ?

**Да 2013-га пад ялінку беларусы атрымалі ад улад традыцыйныя падарункі: шчодрыя абяцанні салодкага жыцця — у аддаленай перспектыве і пачак падаражэнняў — ужо з 1 студзеня. У якіх месцах сёння прыйдзецца трымаць вуха востра і падстаўляць кішэню, падлічвае «Тут і цяпер».**




*З крамы шмат хто выходзіць цяпер, сто разоў пераправерыўшы чэк*

## НЕ ТЭЛЕФАНУЙ МНЕ, НЕ ТЭЛЕФАНУЙ!

Кантраляваць тэлефон і тэлеграф — гэта яшчэ бальшавікі амаль сто гадоў назад прыдумалі. А вось "жахнуть" адразу на 20% угару рахункі за інтэрнэт-паслугі і мабільную сувязь — айчынная знаходка. Прычым афіцыйна гэта зусім не падаражанне, а адмена льготы — розніцу тарыфаў без ПДВ, якой карысталіся інтэрнэт- і мабільныя аператары.

> "Сярэднестатыстычная сям'я з трох чалавек, якая жыве ў тыпавой "двушцы", заплаціць за паслугі ЖКГ амаль на 9 тысяч рублёў больш, чым раней".

А ў канчатковым выніку плаціць за ўсё гэта прыйдзецца кожнай канкрэтнай фізічнай асобе — спажыўцу, якому ад разумных тлумачэнняў лягчэй не становіцца. Да прыкладу, цэны на паслугі доступу ў інтэрнэт ад МТІС вырастуць на 5—50 тысяч рублёў, у залежнасці ад тарыфнага плана.

Дарэчы, у папярэднія гады сувязь таксама няўхільна даражэла. У 2011 годзе пасля травеньскай дэвальвацыі рубля аператары мабільнай сувязі як мінімум тройчы пераглядалі тарыфы ў бок павелічэння.

У 2012 годзе аператары паведамлялі аб змене кошту паслуг практычна кожны месяц.

## ПАЛІЦЬ ШКОДНА. І ДОРАГА

З 1 студзеня выраслі акцызы на спіртныя напіткі і тытунёвыя вырабы, што, натуральна, наўпрост адаб'ецца на рознічным продажы: у 1,5–3,5 разу на цыгарэтах, на 12,4% — на піве і піўных кактэйлях, ад 11,8 да 61,6% — на іншай алкагольнай прадукцыі. Калі падаражанне натуральнага віна, у тым ліку шампанскага, да 4,7 тысяч за літр можа прайсці амаль незаўважна для кішэні спажыўцоў, то 2,9 тысячы рублёў за кожны літр піва наўрад ці ўзрадуе шматлікую студэнцкую брацію.

## ПЕШШУ ПАСТАІМ

Нашы людзі, як вядома, у булачную на таксі не ездзяць. І, мяркуючы па новым законе, які днямі ўступіў у сілу, карыстацца гэтым відам транспарту будуць усё радзей. Таму што стаўкі акцызаў на бензін і дызельнае паліва з 1 студзеня ў сярэднім выраслі на 20%. Напрыклад, стаўка акцызу на бензін з актанавым лікам 95 і вышэй складзе больш за 1,2 мільёна беларускіх рублёў за тону. А значыць, у найбліжэйшы час — зноў "добры дзень": чэргі на запраўках, продаж спрытнымі супрацоўнікамі аўтапаркаў бензіну "з-пад крыса" і невыносна нервовыя кіроўцы.

Зрэшты, заўсёднікам традыцыйнага грамадскага транспарту зларадніцаць таксама рана. Ужо ў лютым, паведамляюць крыніцы КУП "Мінсктранс", можа адбыцца чарговае падаражанне праезду і тут.

## НЕ БУДУЦЬ БРАЦЬ — АДКЛЮЧЫМ ГАЗ

Акурат напярэдадні навагодніх свят улады паведамілі пра павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ. Як невыразна каментуе сваю ж пастанову на афіцыйным сайце Міністэрства эканомікі РБ, «*тарифы для населения и для категорий организаций, обеспечивающий возмещение экономически обоснованных затрат на коммунальную услугу по отпускаемой для нужд населения тепловой энергии, с 1 января 2013 г. увеличен»"* (арфаграфія арыгінала захаваная. — **Заўв. аўт.**). У перакладзе на чалавечую мову гэта гучыць так: у жыроўках за студзень вырасце плата за электрычнасць — на 9,5% і цяпло, у тым ліку падагрэў вады — на 5%. Сярэднестатыстычная сям'я з трох чалавек, якая жыве ў тыпавой «двушцы», заплаціць за паслугі ЖКГ амаль на 9 тысяч рублёў больш, чым раней.

Тым жа, у каго ў кватэры ўсталяваны газавыя, а не электрычныя пліты, плаціць прыйдзецца яшчэ больш, таму што тарыфы на прыродны газ не адстаюць ад "сабратоў". Для кватэр, абсталяваных лічыльнікамі, тарыф павялічыцца з 341 да 358 рублёў за кубаметр. У выпадку, калі прыбораў уліку спажывання рэсурсаў у кватэры ці доме няма, разлік вядзецца крыху інакш — па плошчы памяшкання. За кожны квадратны метр (прычым не жылой, а агульнай плошчы)

давядзецца плаціць 2044 рубля ў зімовы час, і 766 рублёў — у летні.

Кватэранаймальнікам у новым годзе таксама не пазайздросціш. Ва ўсякім выпадку, тым, хто арандуе кватэру "пабеламу", з дамовай. У Мінску падаходны падатак з уладальнікаў кватэр за здачу жылля ў арэнду павялічаны ў сярэднім у 1,2 разу — ад 90 то 135 тысяч рублёў за кватэру, у залежнасці ад набліжанасці да цэнтра горада і выгод цывілізацыі. (Здагадайцеся з трох разоў, хто кампенсуе арэндадаўцам — не толькі кватэр, але і гаражоў, месцаў на стаянках, садовых домікаў, дачных дамоў — гэтыя выдаткі.)

## І НІ Ў ЧЫМ САБЕ НЕ АДМАЎЛЯЙЦЕ

Каб прапанаваная пілюля не выглядала занадта горкай, акцэнты ў афіцыйных віншаваннях, зразумела, былі расстаўлены інакш. Урад паведаміў, як бы між іншым, што з 1 студзеня павысілася мінімальная заработная плата — цяпер яна складае ажно 1,395 мільёна рублёў (на 395 тысяч больш, чым год назад. Слёзы замілавання ў 880 тысяч беларускіх бюджэтнікаў, відавочна, павінна выклікаць павелічэнне тарыфнай стаўкі першага разраду да 240 тысяч рублёў — у выніку студзеньская зарплата ў бюджэтнай сферы абяцае вырасці ў сярэднім на 6,7%.

А вось пенсіянерам паведамілі, што за мінулы год план па іх падтрымцы перавыкананы (ці жарт, што пенсіі павышаліся чатыры разы, па выніках кожнага квартала?). У 2013 годзе, як лічыць міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна, такой неабходнасці яшчэ няма, таму пенсіі будуць павышацца "згодна з законам" — "калі сярэдні памер заработнай платы за квартал на 15% перавысіць заработную плату, з якой вылічаецца пенсія".

Бацькам жа, якія знаходзяцца ў дэкрэтным адпачынку, грэх скардзіцца — так-так, ім абяцана істотнае павелічэнне дапамогі па доглядзе дзіцяці. Не 880 тысяч, як раней, а траціна сярэднямесячнай зарплаты па краіне (ад 1,4 мільёна рублёў). Праўда, здарыцца гэтае шчасце не раней, чым законапраект, адобраны парламентам, падпіша прэзідэнт: пры самым лепшым раскладзе — у лютым.

## СТАРЫЯ ПЕСНІ АБ ГАЛОЎНЫМ

Калі чыноўнікам усё ж такі даводзіцца каментаваць чарговы рост коштаў, за якім не паспяваюць беларускія заробкі, яны дружна зацягваюць любімую песню: паглядзіце на Еўропу — там за ўсё плацяць яшчэ больш. На лагічнае сустрэчнае пытанне, чаму б пры параўнанні аналагічных выдаткаў не ўлічваць даходы і наогул узровень жыцця насельніцтва, беларусам паўтараюць "на біс" вечны прыпеў аб зарплаце ў 500 долараў і пра тое, што ўсе будзе. Трэба толькі пачакаць. А годны ўзровень жыцця? Не, не чулі. У апошні раз яго прывід у Беларусі, гавораць, бачылі ў 2010-м.

Так-так, і вас з Новым годам і са старым шчасцем!..

**Вікторыя ПРАКАПОВІЧ**.



# КРОК УБОК – РАССТРЭЛ!

**Выявіць "сапраўдных" лідараў дэмсіл і паплечнікаў рэжыма прапануюць з дапамогай... інтэрнэт-галасавання, паведамляе Еўрарадыё.**

Калі апазіцыя за амаль 18 гадоў так і не здолела сама аб'яднацца, то нехта мусіць сабраць яе ў кучу, сцвярджае былы камандзір брыгады спецназа, паліт-уцякач **Уладзімір Барадач**. І прапануе сабраць «найлепшых» у Савет нацыянальнага адраджэння. Вызначаць гэтых найлепшых палкоўнік прапануе з дапамогай інтэрнет-кастынгу. Хай толькі хто адмовіцца!

**Уладзімір Барадач:** *"Хто адмаўляецца ўдзельнічаць у гэтым галасаванні — той загадзя знішчае сябе як палітыка. Альбо — ён працуе на ўладу і з'яўляецца спадарожнікам гэтай улады".*

Патрапіць у спіс прэтэндэнтаў на ўваходжанне ў Савет можа кожны, упэўнівае палкоўнік. Ужо зараз у спісе, які ён сам прапанаваў і які разам з **Зянонам Пазняком** ачоліў, звыш 20 кандыдатаў. Тыя 10-15 чалавек, якія набяруць найбольш «лайкаў», і трапяць у гэты ценявы ўрад. Яны ж простай большасцю галасоў абяруць шлях барацьбы за дэмакратыю. З якога нішто іх не прымусіць збочыць....

**Уладзімір Барадач:** *"Мы выпрацоўваем дактрыну адзіную. Ад дактрыны, ад стратэгіі і тактыкі ніводзін чалавек ужо не адыходзіць, ніводзін лідар! Крок убок — расстрэл! Вось і ўсё. І вось гэта — дэмакратыя!"*

А там ужо можна пра адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года падумаць. Ну, альбо на выбарах 2020 года.

**Уладзімір Барадач:** *"Група можа быць кандыдатаў: 5, 6, хоць 10! Але ўсе яны на апошнім этапе будуць заклікаць ад гэтага часовага пераходнага ўрада, ад Савета нацыянальнага адраджэння галасаваць за свайго адзінага, найбольш папулярнага кандыдата".*

Правесці інтэрнэт-галасаванне Барадач хоча да канца сакавіка. Але пакуль няма ні грошай на рэкламу, арганізацыю і правядзенне гэтага маляўнічага шоў, ні вала заяў ад жадаючых трапіць у Савет.

Лідар кампаніі "Гавары праўду" **Уладзімір Някляеў** не супраць, каб яго прозвішча было ў шорт-лісце гэтага інтэрнэт-галасавання, але ставіцца да яго сур'ёзна не збіраецца.

**Уладзімір Някляеў:** *"Гэта будзе ўспрынята як інтэрнэт-гульня. Можа тыя, хто выйграе, і будуць даводзіць, што яны перамаглі, што іх падтрымала інтэрнэт-супольнасць, а тыя, хто не перамаглі, скажуць: "Пагулялі ў гульню, а зараз давайце займацца сур'ёзнымі справамі".*

Калі па выніках галасавання яму прапануюць у ценявым урадзе нейкі партфель, то браць яго Уладзімір Някляеў не стане. А тым больш не будзе гэты Савет узначальваць.

Падобная пазіцыя і ў лідара руху "За свабоду" **Аляксандра Мілінкевіча**.

**Аляксандр Мілінкевіч:** *"Гэта вайсковы падыход. Аб'яднаць людзей можна не перастаноўкай з аднаго фланга на іншы. Аб'яднаць іх можна тады, калі вызначыцца: а што нас аб'ядноўвае ў мэтах?"*

Палітык катэгарычна не згодны працаваць у нейкім замежным "урадзе ў выгнанні". І сцвярджае, што яны з калегамі з Партыі БНФ і "Гавары праўду" і без Барадача дастаткова паспяхова працуюць над аб'яднаннем напярэдадні выбараў.

**Зміцер ЛУКАШУК**

# ШТО ХАВАЕЦЦА ЗА ЛЁГКАЙ КАР'ЕРАЙ АПАЗІЦЫЙНАГА ПАЛІТЫКА?


Аб'ектыўным лічбам не хочуць верыць і не ўлада, і не апазіцыя

**Вынікі апошняга нацыянальнага апытання, якое правёў зарэгістраваны ў Вільнюсе Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, выклікалі нямала шуму. Убачыўшы, што 55,8 працэнта апытаных не давяраюць апазіцыйным партыям, некаторыя палітыкі абурыліся: маўляў, дзе праводзіліся гэтыя даследаванні і адкуль знайшлося столькі прыхільнікаў улады?**

*«Тут і цяпер» паспрабавала абмеркаваць некаторыя лічбы з доктарам сацыялагічных навук, прафесарам* **Алегам Манаевым**, *практыкуючым палітыкам, лідарам АГП* **Анатолем Лябедзькам** *і аналітыкам* **Яўгенам Прэйгерманам**.

## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

Паводле апошніх даных НІСЭПД, у апазіцыі да цяперашняй улады 21,3% беларусаў, пры гэтым давяраюць апазіцыйным партыям 20%, а не давяраюць — 55,8%.

Рэйтынг лідараў апазіцыі па-ранейшаму невысокі: лічбы вагаюцца ад 4,8% у **Андрэя Саннікава** і 4,6% ва **Уладзіміра Някляева** да 1,1% у **Мікалая Статкевіча** і 0,9% у **Анатоля Лябедзькі**.

Асабісты рэйтынг А.Лукашэнкі фактычна «замер», нягледзячы на дасягненне да канца года «запаветнай» 500-доларавай зарплаты: у снежні яму давяралі 39,1% рэспандэнтаў, а не давяралі 49,1% (у верасні было 38,5% vs. 51,9%), галасаваць за яго на новых выбарах прэзідэнта гатовы 31,05% (у верасні 31,6%).

*Да ведама: метадам face-to-face interview было апытана 1500 рэспандэнтаў ва ўзросце18 гадоў і старэй; памылка рэпрэзентатыўнасці не перавысіла 0,03 працэнта.*

## ГОЛАС З ЭМІГРАЦЫІ

Лічбы НІСЭПД выклікалі абурэнне нават у эмігранта **Сяргея Навумчыка**, які шмат гадоў таму разам з **Зянонам Пазьняком** з'ехаў з Беларусі.

*"У маіх бацькоў (Віцебск) няма ніводнага знаёмага, які б падтрымліваў Лукашэнку,* — напісаў Навумчык на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы "Фэйсбук". — *Я разумею, яны не могуць прадстаўляць рэпрэзентатыўную выбарку, але сярод іх ёсць тыя, хто за Пазьняка ці супраць, хто за АГП ці супраць, хто за БНФ ці супраць, нехта і білет КПСС «трымае ля сэрца», але ніводнага за Лукашэнку. Можа, апытанне праводзілася ў будынку Адміністрацыі па Карла Маркса?".*

**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА:**

## "КАНКУРЭНЦЫЯ Ў САМОЙ АПАЗІЦЫІ ДАСТАТКОВА НІЗКАЯ".

**Старшыня АГП больш стрымана ставіцца да высноў НІСЭПД. І заўважае, што ў даследаваннях імкнецца знайсці не лічбу, якая альбо радуе, альбо засмучае, а тэндэнцыю.**

*«Я сумняваюся ў тым, што ў нашых умовах можна ўвогуле праводзіць сацыялагічныя даследаванні,* — разважае Анатоль Уладзіміравіч. — *Яшчэ гадоў 10–12 назад беларускія сацыёлагі вывелі так званую лічбу страху, якая сведчыла аб тым, што людзі не даюць шчырых адказаў падчас такіх апытанняў. А ці сталі менш баяцца беларусы цяпер? Безумоўна, не. Таму, на мой погляд, адэкватна правесці даследаванні немагчыма, асабліва калі гэта тычыцца палітычных пытанняў. Можна даведацца ў людзей, што яны больш любяць — вясну ці лета, але ў адносінах сімпатыі да Лукашэнкі і апазіцыянераў гэта зрабіць даволі складана».*

Анатоль Лябедзька лічыць, што рэйтынг кіраўніка дзяржавы значна ніжэйшы за тыя лічбы, якія прыводзіць НІСЭПД.

*«Я ўсё ж такі практыкуючы палітык і магу арыентавацца на досыць шчыльныя кантакты з людзьмі падчас і прэзідэнцкай кампаніі, і апошняй парламенцкай. Таму магу сказаць, што, па маёй асабістай сацыялогіі, рэйтынг Лукашэнкі значна ніжэй 31,5 працэнта,* — перакананы палітык. — *Ці мне проста не шанцуе на сустрэчы з фанатамі клуба Аляксандра Лукашэнкі, ці на самай справе нешта неверагоднае адбываецца з гэтай лічбай страху».*

Што тычыцца ўзроўню даверу апазіцыі, то лідар АГП лічыць так: палітыкам варта ісці ў народ і размаўляць, размаўляць і яшчэ раз размаўляць.

*«На мой погляд, самая вялікая праблема беларускай апазіцыі — гэта адсутнасць устойлівай камунікацыі з людзьмі, між тым, час для зносін больш чым спрыяльны,* — кажа Лябедзька. — *Улада робіць усё магчымае, каб гэтыя кантакты не дапусціць. І за апошнія гады, трэба прызнаць, яна дабілася вялікіх поспехаў — апазіцыю цалкам выціснулі з вуліцы, практычна няма жывой работы — усе сышлі ў падполле або паўпадполле».*

Варта заўважыць, што сам Лябедзька знаходзіцца ў апазіцыі прыкладна столькі ж, колькі Лукашэнка ва ўладзе. Вялізным апазіцыйным стажам могуць казырнуць і іншыя палітыкі. Пры гэтым гады мінаюць, а ў краіне нічога не мяняецца. І новых асоб

у апазіцыі не з'явілася. Можа, адсюль такі вялікі працэнт недаверу да апазіцыйных партый?

*«Катэгарычна не згодны з такой пастаноўкай пытання*! — гаворыць Лябедзька. *— На самай справе, Беларусь самая камфортная краіна для таго, каб зрабіць кар'еру ў апазіцыі. Вам не свеціць нічога падобнага ва Украіне — там, каб стаць лідарам апазіцыі, трэба мець і рэальную структуру, і сур'ёзныя капіталы. У Беларусі для таго, каб прыйсці ў вялікую палітыку, не трэба ні ў каго пытацца дазволу. Напрыклад, генерал Фралоў прыйшоў у сацыял-дэмакратычную партыю і за год стаў намеснікам старшыні. Казулін за некалькі месяцаў абзавёўся партыяй і стаў кандыдатам у прэзідэнты. І такіх прыкладаў шмат! У апошняй прэзідэнцкай кампаніі са старой апазіцыйнай гвардыі быў толькі адзін Статкевіч. Усе астатнія — альбо цалкам новыя людзі (паэт Някляеў, бізнесмен Ус), альбо з другога, трэцяга эшалонаў апазіцыі. Гэта сведчыць аб тым, што кар'еру апазіцыйнага палітыка ў Беларусі можна зрабіць без грошай і самавітага палітычнага багажу. Іншая справа, што канкурэнцыя ў самой апазіцыі дастаткова нізкая (я мяркую нават па сваёй партыі). Моцных людзей дастаткова, але пасада старшыні рэальнай партыі сёння не з'яўляецца надта прэстыжнай, таму што, акрамя праблем, яна нічога не дае.*

*А што тычыцца даследаванняў НІСЭПД, то я імкнуся знайсці там не лічбу, якая альбо радуе, альбо засмучае, а тэндэнцыю. Па лічбах бачна: няма трэнду на тое, што Лукашэнка ўзмацніў свае пазіцыі. Значыць, ёсць шанц для апазіцыі...».*

## АЛЕГ МАНАЕЎ:
## «ПРА БЕЛАРУСКУЮ АПАЗІЦЫЮ НЕЛЬГА МЕРКАВАЦЬ ПА ГАМБУРСКІМ РАХУНКУ».

**НІСЭПД ужо не ўпершыню абвінавачваюць у прадузятасці і ангажаванасці сацдаследаванняў. Стваральнік інстытута Алег Манаеў ўжо даўно не звяртае ўвагу на крытыку і прэтэнзіі з боку "некампетэнтных" асоб.**

— Адна справа, як ставяцца да такога роду даследаванняў тыя, хто разбіраецца ў пытанні, і іншая — як тыя, хто не разбіраецца, — *каментуе спрэчкі прафесар Манаеў.* — Нават тая дыскусія, што разгарэлася ў «Фэйсбуку» паміж Навумчыкам і тымі, хто з ім не згаджаўся, паказвае, што некаторыя людзі разумеюць прынцыпы правядзення такіх апытанняў, ведаюць, што такое рэпрэзентатыўная выбарка.

Агульная культура (і палітычная ў тым ліку) у нас не вельмі высокая — гэта даўно вядома. У Еўропе ці Штатах таксама папулярны дэбаты і абмеркаванні, але, прызнаюся, такога дрымучага, пячорнага ўзроўню ўспрымання інфармацыі я там не сустракаў.


*Галоўнае бачыць тое, што ёсць на самой справе*

НІСЭПД даўно праводзіць нацыянальныя апытанні, і за апошнія 20 гадоў гэта не першы скандал. Калі я зноў пачну пералічваць прынцыпы работы, спасылацца на кніжкі і падручнікі, будзе сумна і нецікава. Таму проста яшчэ раз паўтару, што раздзяляльная мяжа праходзіць паміж кампетэнтнымі людзьмі і некампетэнтнымі. Мне цяжка сказаць, у якой ступені Сяргей Навумчык быў кампетэнтным дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання — гэта трэба размаўляць з яго калегамі. Але ў сферы правядзення апытанняў грамадскага меркавання або іншых пытаннях, звязаных з сацыялогіяй, ён абсалютна некампетэнтны. І што тут тады каментаваць?..

Дарэчы, мне здаецца, што асабліва востра на нейкія высновы рэагуюць тады, калі нейкія даныя парушаюць тую карціну свету або наяўную сістэму каштоўнасцей людзей. Вось, напрыклад, даныя, якія апублікаваў НІСЭПД па эканоміцы або па знешнепалітычных пытаннях, Навумчыка і іншых не ўсхвалявалі, а ад гэтых чамусьці балюча...

**— Лябедзька кажа, што апазіцыя зараз павінна больш часу праводзіць з народам, жыць яго праблемамі. Вы з гэтым згодны?**

— Вельмі правільная заява. Пра гэта ўжо шмат гадоў гавораць. Але адна справа — заявы і зусім іншая — рэальная практыка. Калі палітыкі будуць агучваць ідэі, якія не адпавядаюць чаканням і спадзяванням народа, то з гэтай заявы абсалютна нічога не атрымаецца...

Некаторыя палітыкі (Аляксандр Мілінкевіч, Уладзімір Някляеў) у сваіх лозунгах, праграмных палажэннях сапраўды імкнуцца зыходзіць з таго, што людзей хвалюе. А большая частка апазіцыйнай публікі зусім іншая.

**— Але ўсё роўна рэйтынгі нават гэтых персон складаюць нуль з хвосцікам. Між тым гэтыя людзі не першы год у палітыцы. Можа, лепш пайсці капусту вырошчваць на дачы?**

— Так можна казаць, але хто іх заменіць? Доўгія гады Сістэма ў нас вынішчала любую альтэрнатыву. Заставаліся толькі байцы. Таму замяшчэнне новымі пакаленнямі немагчыма.

Я выдатна разумею, што меркаваць па гамбурскім рахунку пра беларускую апазіцыю нельга. Але, з іншага боку, я не магу і падтасоўваць вынікі даследаванняў...

Дарэчы, у гэтым годзе ўпершыню здарылася так, што эканамічнае самаадчуванне людзей пасля крызісу і шоку больш-менш стабілізавалася, а вось палітычнай стабілізацыі не назіраецца. Раней зніжаўся ўзровень дабрабыту людзей — падаў рэйтынг прэзідэнта і ўлады, паляпшаўся дабрабыт — павышаўся і рэйтынг. Цяпер гэта ўжо мінімум як паўгода не адбываецца. Гэта новая з'ява, даволі сур'ёзны момант, якога раней не было.

## ПОГЛЯД НЕЗАЦІКАЎЛЕНАЙ АСОБЫ
## "НІСЭПД ДАЕ НАЙБОЛЬШ АБ'ЕКТЫЎНЫЯ ЛІЧБЫ"

*Пракаментаваць спрэчкі наконт лічбаў мы папрасілі дырэктара па даследаваннях Ліберальнага клуба* **Яўгена Прэйгермана.**

— Часткова я згодны з тым, што ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму, калі адбываецца мэтанакіраванае паляванне на сацыёлагаў, ёсць праблемы з сацыялагічнымі замерамі, — гаворыць Яўген. — У той жа час я абсалютна ўпэўнены, што НІСЭПД дае менавіта тыя лічбы, якім можна найбольш давяраць. І, шчыра кажучы, у мяне няма падстаў для таго, каб вінаваціць каманду НІСЭПД у ангажаванасці. Тым больш, паглядзіце, якія лічбы яны даюць па Лукашэнку: там не можа быць ніякай замовы Чырвонага дома!

Раней была такая заканамернасць: як толькі павышаліся даходы насельніцтва, абавязкова рос рэйтынг Лукашэнкі. А зараз даходы падраслі, а рэйтынг застаўся на ранейшым узроўні. І нават сацыёлагі, прыбліжаныя да ўлады, заклапочаны гэтай з'явай, таму што фіксуюць такую ж карціну. Таму асабіста мне няма ў чым папракаць НІСЭПД.

**МАРЫНА МІТ**

# РАГАЧОЎ: ПРОСТА ТАК РОГІ НЕ НОСЯЦЬ



**Рагачоўскі раённы выканаўчы камітэт адбірае рог у незалежнага сайта vrogacheve.ru.**

У лісце да мясцовага грамадскага актывіста, цяперашняга рэдактара згаданага сайту Дзяніса Дашкевіча намеснік старшыні райвыканкама ў пытаннях ідэалогіі Васіль Каральчук патрабуе зняць выяву рога ў залатым полі з інтэрнэт-партала.

Пры гэтым чыноўнік спасылаецца па палажэнне і рашэнне райсавета пра герб і сцяг горада, якія прыняты ў маі 2001 года. І далей піша: *"Права на выкарыстанне сімволікі Рагачова і Рагачоўскага раёна даецца Рагачоўскім райвыканкамам. На сайце vrogacheve.ru выкарыстоўваецца герб Рагачова без узгаднення з райвыканкамам"*.

**Калі рэдактар не ліквідуе "наяўныя парушэнні ўстаноўленага парадку прымянення афіцыйных сімвалаў горада і раёна", то яго чакае адказнасць паводле беларускага заканадаўства.**

Калі рэдактар не ліквідуе "наяўныя парушэнні ўстаноўленага парадку прымянення афіцыйных сімвалаў горада і раёна", то яго чакае адказнасць паводле беларускага заканадаўства. Якая менавіта – не сказана.

Дашкевіч: *"Хутка, відаць, дойдзе да таго, што, каб апрануцца ў цішотку з афіцыйнай выявай якога-кольвечы герба горада, а тым больш Беларусі, трэба будзе гэта ўзгадняць з уладамі"*.

Спадар Дашкевіч адзначае, што па каларыстыцы рог на сайце адрозніваецца ад рога на афіцыйным гербе – ён не чарнаватага, а светла-шэрага колеру. Апрача таго, закон пра аўтарскія і сумежныя правы сцвярждае: афіцыйныя геральдычныя сімвалы – сцягі, гербы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Рэспублікі Беларусь, геральдычныя , нагрудныя знакі, эмблемы дзяржаўных органаў – не з'яўляюцца аб'ектамі аўтарскага права. Выкарыстанне іх без спецыяльнага ўзгаднення не забаронена.

"Чыноўнікам бы радавацца, што інтэрнэт-рэсурс прапагандуе мясцовыя геральдычныя сімвалы. А яны змагаюцца з гэтым. Відаць, апасаюцца, што вакол сайта гуртуюцца людзі. Таму і ствараюць усякія перашкоды", – кажа Дашкевіч.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 10.01.13
Тыраж 299 экзэмпляраў